Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



Сакавік 2003

Яго Міласьці Доктару Алегу Л:атышонку,
Супрацоўнікам
ды усім Удзельнікам Урачыстага Сходу Сьвяткаваньня
85-х угодкаў **АКТУ 25 САКАВІКА** ў Біеластоку

СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!

Вітаем Вас з найбольшым беларускім нацыянальным сьвятам - Днём Незалежнасьці Беларусі - 85-мі ўгодкамі **АКТУ 25 САКАВІКА.**

85 гад таму назад, 25 сакавіка 1918 г. Рада Кангрэсу, пераіменаваная пасьля ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы волю **Пешшага Усебеларускага Кангрэсу 1917 году,** а цераз яго волю беларускага народу, **Актам 25 Сакавіка** абвесьціла Беларусь вольнай дэмактарычнай дзяржавай, названай **Беларускай Народнай Рэспублікай.**

Беларуская Народная Рэспубліка доўга ўтрымацца на змагла. Падзеі адбываліся ў час вайны Саветаў зь Нямеччынай, у якой з усходу савецкая Масква , а із захаду Варшава, кожны сабе намагаліся захапіць Беларусь. 10 сьнежня, 1918 году бальшавіцкая Чырвоная армія заняла Менск. Урад і Рада БНР вымашамы былі эміграваць. Менскі бальшавіцкі ваенна-рэвалюцыйны камітэт таго-ж 10 сьнежня выдаў загад аб разьвязаньні Ураду й Рады БНР і арышце ейных сяброў.

Толькі-ж падобным згадам не мачыма было забіць у народзе разбуджаную нацыянальную сьведамасьць, ды волю быць гаспадаром у сваім собскім краі.

Каб успакоіць нацыянальны ўздым, Рэўком разумее, што абы якіх сродкаў ня хопіць, і таму дакладае ў Смаленск сваёй уладзе Абласному камітэту аб неабходнасьці стварэньня «савецкае беларускае дзяржаўнасьці».

«Нажаль», як запісана ў дакумэнце - «Абком адарваны ад пытаньня беларускае рэчаіснасьці, адкінуў тады прапанову самавызначэньня Беларусі». Ды ўсё-ж **ЦК Расейскай камуністычнай партыі (б) і савецкі ўрад вымушаны былі стварыць БССР на мейца БНР,** што сталася на зьезьдзе Камуністычнае партыі 1-га студзеня, 1919 году ў Смаленску.

Пасьля-ж падпісаньня Ружскага трактату, якім Заходнюю Беларусь бальшавікі аддалі палякам, а на ўсходняй 1-га жніўня, 1920 году другі раз абвесьцілоі БССР, але гэтым разам толькі на тэрыторыі былое Менскае губэрні -



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

беларускі народ адказаў на гэта цэлай хваляй збройных паўстаньняў, найбольшае зь іх Слуцкае, памяць якога мы адзначалі ў лістападзе мінулага году.

І хоць БНР доўга ўтрымацца не змагла , ды ўсяроўна - **Абвешчаньне АКТАМ 25 САКАВІКА дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі** мае для нас калясальнае значэньне:

1. Актам 25 Сакавіка беларускі народ задакумэнтаваў й заявіў сьвету сваю волю быць гаспадром у сваім собскім краі. І гэтым запачаткаваў у беларускім адраджэнскім руху **новы нзалежніскі этап.**

2. З Актам 25 Сакавіка мусілі лічыцца й бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць на мейсцы БНР, хай сабе й фікцыйную, БССР. Каб ня былі БНР, ня было бы й БССР, а была бы толькі паўночна-заходняя вобасьць РСФР.

3. Каб ня было БНР, ня было бы й прадстаўніцтва Беларусі ў Задзініочаных Нацыях.

4. Каб ня было БНР, кансэквэнтна , ня было бы й Рэспублікі Беларусь.

Сяньня 85 год пазьней ізноў над Беларусяй - Рэспублікай Беларусь - павісла пагроза страты яе сувэрэннасьці. Захаваць незалежнасьць РБ можа толькі сам беларускі народ. Наймацнейшай нашай зброяй абароны перад зьнішчэньнем РБ, як апрычонае эўрапэйскае дзяржавы, ёсьць наш беларускі нацыянальны дух, нашая калектыўная воля быць гаспдаром у сваім собскім краі. І мы верым у сілу нашай духовай збрі, верым у сілу нашае калектыўнае волі мецъ сваю незалежную беларускую дзяржаву. Верым, што абаронім Беларусь перад захопам яе ізноў Расеяй. У гэтым памагай нам, Божа!

Жадаем вам усім добрага - фізычнага й духовага - здароў'я, шчасьця й спору ў працы.

ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!

За Кіраўніцтва Каардынацыйнмага
Камітэту Беларусаў Канады

Раіса Жук-Грышкевіч

Бэры, Канада
21 лютага, 2003

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Былы Старшыня ККБК

Раіса Жук-Грышкевіч